ЦАНА 10 ГР.

# БЕЛАРУСКАЯ ДОЛЯ

АДНАДНЁЎКА

Вільня, Сакавік, 1937 г. Улажыў і выдаў Язэп Ярмалковіч, в. Юшкі, пош. Тургелі.



## Сучасная міжнародная палітыка і беларуская праблема

Доля кожнага народу прадусім залежа ад яго самога — ад яго барацьбы і працы, але залежа яна так-жа і ад тых варункаў, у якіх таму ці іншаму народу прыходзіцца жыць. Дзеля гэтага, гаворачы аб беларускай праблеме, трэба так-жа браць пад увагу і сучасную міжнародную палітыку.

Але ці ёсьць беларуская праблема? Праўда можа па старане таго віленскага польскага палітыка, каторы, асьлеплены зьвярыным нацыяналізмам і клясавым эгоізмам, даказвае, што няма ані Беларусаў, ані беларускай праблемы? Не. Беларуская праблема існуе. На гэта ня трэба — хоць ёсьць іх многа — іншых довадаў, як нядаўнія падзеі: закрыцьцё „Беларускай Крыніцы", закрыцьцё „Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры" і закрыцьцё „Таварыства Беларускай Школы". Каб ня было беларускай праблемы, дык ня было-б беларускай прэсы і беларускіх культурна-прасьветных арганізацыяў і ня было-б чаго закрываць.

А як-жа выглядае сучасная міжнародная палітыка? Вось-жа ў некаторых краёх Эўропы запанавала дыктатура фашызму, а ў некаторых намагаецца запанаваць. Ці беларускі народ можа ад фашызму чаго добрага спадзявацца? Анічагусенькі, бо фашызм паняволіць слабейшыя народы і служыць капіталізму.

Апрача дыктатуры фашызму існуе так-жа дыктатура камунізму. Вось-жа гэта дыктатура так-жа ня можа быць парукай лепшай будучыні Беларускага народу. Камунізм не прызнае нацыянальных культураў, а толькі культуру пролетарыяцкую матарыялістычную.

Але вобак з гэтымі палітычнымі кірункамі, якія апіраюцца на дыктатуры і якія дзяржаву ўважаюць поўнай і выключнай валадаркай жыцьця грамадзян, існуе палітычны кірунак дэмакратычны, які апіраецца на волі народу, прызнае нацыянальную культуру і свабоду сумленьня. Дэмакратызм у многіх краёх Эўропы ўжо сяньня пануе і сапраўды задавольвае народы. Дэмакратызм сяньня дужа пашыраецца сярод шырокіх працоўных масаў і паняволеных народаў, а так-жа за дэмакратызм сяньня стаяць усе паступовыя, сьветлыя і лепшыя людзі.

Беларускі народ — дэмакратычны народ, як сваім складам соцыяльным, так і сваім пракананьнем. Вось-жа будучыня Беларускага народу залежа ад дэмакрацыі. У духу дэмакрацыі Беларускі народ павінен разьвіваць свае сілы, тварыць сваю культуру і, калі мае на каго спадзявацца, дык толькі на перамогу на сьвеце дэмакрацыі.

*Я. Я.*



## Канфіската „Беларускай Долі" скасавана

Гэтая аднаднёўка была выдана ў пачатку сакавіка сёл. і тады сканфіскавана адміністрацыйнымі ўладамі ў Вільні.

Віленскі Акружны Суд канфіскату „Бел. Долі" скасаваў выдаючы гэткую пастанову:

Pras. 44/37

Wyciąg z protokułu wspólnego posiedzenia niejawnego z dnia 18 marca 1937 roku. Sąd Okręgowy w Wilnie w składzie następującym: Przewodniczący Wiceprezes M. Hryniewicz, Sędziowie: W. Drac i J. Bułhak, Wiceprokurator W. Krzywopisza, Protokulant J. Korczyńska apl. po rozpoznaniu wniosku Starosty Grodzkiego Wileńskiego z dnia 11.III.37 r. w przedmiocie zatwierdzenia zajęcia nakładu jednodniówki p. t. „Biełaruskaja Dola" z datą marzec 1937 roku za umieszczenie artykułu „Współczesna polityka międzynarodowa i zagadnienie białoruskie" oraz „Obrazki z współczesnego życia białoruskiego", po wysłuchaniu wniosku Prokuratora, z mocy art. 28 i 29 Dekretu z dnia 7.II.1919 r. w przedmiocie tymczasowych przepisów prasowych p o s t a n o w i ł: zajęcie uchylić.

Uzasadnienie.

W wyżej wymienionych artykułach Sąd nie dopatrzył się przedstawienia sytuacji mniejszości białoruskiej w sposób fałszywy i jątrzący, mogący wywołać niepokój publiczny wobec czego nie upatrując w artykułach tych cech przestępstwa z art. 170 K. K., zajęcie nakładu uchylił.

Цяпер, пасьля скасаваньня канфіскаты, выдаю гэтую аднаднёўку бяз зьмены яе ўкладу, дык дзеля гэтага некаторыя весткі ў ёй ня сяньняшнія — крыху старэйшыя.

Красавік 1937 г.

*Я. Ярмалковіч.*

## Да культуры сужыцьця

*(З праграмы БНА—Бел. Народ. Аб'еднаньня).*

Чалавек у сьвятле культуры—гэта грамадзкая істота.

Яшчэ ў сваей першабытнасьці чалавек адчуваў патрэбу сужыцьця ў грамадзе, дзеля забясьпечаньня свайго быту і дабрабыту. З разьвіцьцём жыцьця грамадзкага разьвівалася культура, рос дабрабыт, узрастала пачуцьцё і зразуменьне патрэбы сужыцьця, супрацоўніцтва, аб'еднаньня і ўзаемнай пашаны.

Пачуцьцё патрэбы сужыцьця, супрацоўніцтва і солідарнасьці можа быць шырэйшае і вузейшае: прафэсіянальнае, клясавае, народнае і інтэрнацыянальнае — рэлігійнае, або агульна-людзкое.

Пачуцьцё і зразуменьне патрэбы сужыцьця асноўваецца на супольных інтарэсах і ідэях.

Ідэя, што аб'еднывае людзей на найшырэйшым фундаманце, якая абыймае неабходныя і найпатрабнейшыя справы ўсіх грамадзкіх групаў аднаго народу гэта — ідэя *нацыянальная.*

На гэтым прынцыпе і выплываючых з яго постулятах павадыры Б.Н.А. аснавалі сваю праграму і слушна назвалі сваю арганізацыю „Беларускае Народнае Аб'еднаньне."

Мерай жыцьцёвай сілы кожнага народу зьяўляецца ягоная культура сужыцьця— солідарнасьць і супрацоўніцтва ягоных групаў у разьвіцьці сваей народнай і агульна-людзкай культуры. Культурны народ толькі гэтак праяўляе сваю духовую сілу — сілу народнай душы.

Гэта, аднак, не азначае, каб у народзе ня было групаў з супярэчнымі праграмамі і сьветаглядамі. Наадварот—існаваньне гэткіх грамадзкіх групаў патрэбнае і карыснае дзеля ўсебаковага развою грамадзкага жыцьця, але з зразуменьнем патрэбы існаваньня свайго і патрэбы існаваньня другіх — з зразуменьнем солідарнасьці, супрацоўніцтва і агулам сужыцьця.

Ніякае людзкое грамадзянства, а тымбольш ніякі народ ня зможа існаваць і разьвівацца, калі яго групы замест супрацоўніцтва, між сабою змагаюцца і замест шырэньня культуры сужыцьця, шыраць культ ненавісьці і разьяднаньня.

Паўтараем — гэта аднак не азначае, што жыцьцё народу павінна плысьці шаблённым шляхам. з запярэчаньнем людзкіх індывідуальнасьцяў. Наадварот: у народным грамадзкім жыцьці павінны дзеяць два аснаўныя чыньнікі — чыньнік супрацоўніцтва і чыньнік спаборніцтва — змаганьня. Але спаборніцтва не павінна пераходзіць граніцы сужыцьця і не пераменяцца ў вайну, якая нічога ня будуе, а толькі нішчыць і руйнуе.

Агулам кажучы, культура сужыцьця — гэта *шырокі і вольны дэмакратызм* як у нутраным жыцьці народу, таксама і ў жыцьці міжнародным, які шануе людзкую адзінку, грамадзкія групы людзей і цэлыя народы.

Стоячы на гэткай палітычнай і грамадзкай плятформе, Б.Н.А. сваей праграмай ставіць кліч шырэньня сярод Беларусаў культуры сужыцьця, як у жыцьці нутраным, таксама і ў адносінах да іншых народаў.

БНА, стоячы на прынцыпе міжнароднага дэмакратызму — самастанаўленьня народаў, у сваей праграме высока ставіць ідэал самастойнасьці Беларускага народу на ўсіх яго землях.

Кожная дыктатура — гэта нішто іншае, як праява брутальнай сілы, якая не разьвівае, але спыняе ў народзе развой культуры сужыцьця. Дзеля гэтага праграма Б.Н.А. проціў усякай дыктатуры, якая нясе з сабой паняволеньне народаў і працуючых масаў.

Углыбляючыся ў праграму БНА, амаль у кожным параграфе яе знаходзім ідэю шырокага і вольнага дэмакратызму.

І так: 1) у справе рэлігійнай — поўная свабода; свабода існаваньня рэлігійных установаў і свабода іх дзейнасьці; свабоднае навучаньне рэлігіі і шырэньне праўды Божай у роднай мове народу, 2) дэмакратызацыя асьветы — навучаньне моладзі ў школах на кошт дзяржавы, або самаўрадаў, і ў роднай мове, 3) роўнае права для ўсіх — свабода сходаў, друку, слова, сумленьня, арганізацыі; свабода выбараў у дзяржаўныя і самаўрадавыя ўстановы на падставе агульнага, простага, тайнага, роўнага і прапарцыянальнага галасаваньня і г. д.

Правільна БНА намеціла шлях Беларускаму народу да культуры сужыцьця — шлях свабоднага і сапраўды вольнага дэмакратызму, які не разьеднывае працоўнага беларускага народу, але аб'еднывае ў сьведамую, культурную, высокай людзкой годнасьці грамаду людзей. Вольны і свабодны дэмакратызм унутры народу ня сварыць яго так-жа і ў суседзкім сужыцьці з іншымі народамі.

Усе сьведамыя беларускія адзінкі і групы разумеюць гэта ўсё і ад гістарычнай адказнасьці за будучыню народу ня ўхіляюцца і разам з Б.Н.А. падымаюць кліч шырэньня культуры сужыцьця.

Беларускія сьведамыя адзінкі і ідэйныя групы памятаюць, што важнейшыя і большыя тыя справы, якія ўсіх Беларусаў лучаць у адно цэлае, за тыя справы, што Беларусаў дзеляць.

Культурны народ мае ня толькі пачуцьцё самапашаны, але так-жа і пачуцьцё абавязку адносна сваей бацькаўшчыны. А каб гэтае пачуцьцё ўглыбіць і пашырыць у народныя масы, трэба культуры сужыцьця.

*Я. Якубчык.*

# Абразкі з сучаснага беларускага жыцьця

Наўперад, пакуль саставім гэтыя абразкі беларускай сучаснасьці, засьцерагаемся, што яны ілюструюць толькі пэўныя фрагмэнты і ня ўсё ў цэласьці беларускае жыцьцё, якое дасюль разьвілося ў 2.500.000 беларускай масе ў граніцах Польскай дзяржавы буйна і шырока.

Дакладна апісаць у аднаднёўцы натуральны развой беларускага народнага адраджэньня і ненатуральныя запоры, што яго спыняюць, проста немагчыма. Гэтае заданьне з трудом выконвала тыднёвая беларуская газэта.

Каб належна і сыстэматычна асьвятляць натуральны ход беларускага жыцьця, ужо ужо цесна і ў тыднёвай газэце, ужо паўстае патрэба газэты штодзеннай.

Нажаль, Беларусы ў Польшчы ня маюць ад пачатку сёлетняга 1937 году ані аднае нават і тыднёвай палітычнай газэты. Але ў гэтым віна не Беларусаў!

**„Беларуская Крыніца“** — *палітычная, грамадзкая і літаратурная газэта,* якая выходзіла што тыдзень, праз 20 гадоў, у Вільні ад 1919 году — польскімі судовымі ўладамі на прапазыцыю ўлады адміністрацыйнай у канцы м-ца сьнежня 1936 году **спынена**.

**Беларуская народная сьведамасьць** сярод інтэлігенцыі, беларускіх сялянскіх масаў і беларускага мяшчанства вялікая: сярод сялянскіх масаў *беларушчына* — гэта новая рэлігія, якая лучыць і аб'еднывае ўсіх у адно цэлае — сьведамае грамадзянства, народ; беларуская вёска з прагай шукае беларускага друкаванага слова, якое, прачытаўшы, перахоўвае як рэліквію народнае сьвятасьці; беларуская інтэлігенцыя і мяшчанства ў духовай лучнасьці з беларускім сялянствам, для беларускай народнай справы ахвярнае і становіцца ў рады сьведамай агульна-беларускай грамады.

Адбіцьцём волі гэтай беларускай масы, а так-жа злучвом народнага аб'еднаньня Беларусаў былі бачыны адзінай незалежнай палітычнай газэты „Бел. Крыніцы.“

Дык нічога дзіўнага, што закрыцьцё „Бел. Кр.“ усе беларусы балюча адчулі.

Але жыцьцё на месцы не стаіць і няма такой сілы, якая-б запыніла яго натуральны гон.

**На новых этапах.** Пасьля закрыцьця „Бел. Крыніцы“ беларускае грамадзянства прыступіла да арганізацыі новай палітычнай газэты, якая-б абслугоўвала грамадзкія патрэбы Беларусаў.

Ніжэй апісаныя настойлівыя дамаганьні беларусаў мець сваю палітычную газэту паказваюць, што беларуская прэса для Беларусаў гэта штодзенны духовы хлеб, без якога народ ня можа жыць.

1. *„Народная Крыніца.“* 29.XII.1936 г. грам. А. Шутовіч паведаміў адміністрацыйную ўладу, што прыступае да выдаваньня ў Вільні беларускай газэты пад назовам „Народная Крыніца.“

У адказ на гэту заяву паступіў дакумант такога зьместу:

Starosta Grodzki
Wileński
N=B/1 Wilno, dnia 2 stycznia 1937 r.
*L. dz.*

Do
Pana Alfonsa Szutowicza
wydawcy „Narodnoj Krynicy“ —
wydanie wileń. w Wilnie, ul. Zawalna 1—1

Dnia 29.XII.1936 r. wniósł Pan do Starostwa Grodzkiego Wileńskiego zgłoszenie o zamierzonym wydawaniu w Wilnie tygodnika w języku białoruskim p. t. „Narodnaja Krynica“.

Na podstawie art 72 Rozp. Prezydenta R.P. z dnia 22 .III.1928 r. o postępowaniu administracyjnym (Dz. U. R. P. Nr. 36 poz. 341), art. 17 p. b. Dekretu w przedmiocie tymczas. przepis. prasowych z dnia 7.II.1919 r. (D. Pr. P. P. Nr. 14 poz. 186) oraz art. 1 ust. 2 ustawy z dnia 2.VIII.1926 r. o zwalczaniu nieuczciwej konkurencji w brzmieniu jednolitego tekstu, zawartego w załączniku do Rozp. Min. Przem. i Handlu z dnia 9.VII.1930 r. (Dz U. R. P. Nr-56 poz. 467) — wydawania w języku białoruskim czasopisma p. n. „Narodnaja Krynica“ — z a b r a n i a m.

U z a s a d n i e n i e.

We wniesionym zgłoszeniu zamierzony tytuł wydawnictwa wileńskiego czasopisma p. n „Narodnaja Krynica“ uchybia przepisom prasowym, gdyż zostało już zgłoszone czasopismo w języku białoruskim o podobnym tytule.

Od decyzji niniejszej służy prawo odwołania do Urzędu Wojewódzkiego Wileńskiego za pośrednictwem Starostwa Grodzkiego Wileńskiego w ciągu dni 14 od dnia jej doręczenia.

Starosta Grodzki Wileński
(T. Wielowieyski).

2. *„Беларускае Веча“*. 7.I.1937 г. падана адміністрацыйнай уладзе заява аб прыступленьні да выдаваньня пабеларуску газэты пад назовам „Беларускае Веча“. На заяву быў адказ такі:

Starosta Grodzki
Wileński Wilno, dn. 11.I.1937 r.
B I
*L. dz.*

Do
Pana Alfonsa Szutowicza
Wydawcy „Biełaruskiej Wieczy“
— wydanie wileńskie
w Wilnie, ul. Zawalna 1—1.

Dnia 7.I.1937 r. wniósł Pan do Starostwa Grodzkiego Wileńskiego zgłoszenie o zamierzonym wydawaniu w Wilnie tygodnika w języku białoruskim pt. „Biełaruskaje Wiecza“.

Na podstawie art. 72 Rozp. Prezydenta R. P. z dnia 22.III.1928 r. o postępowaniu administracyjnym (Dz. URP. N. 36, poz. 341) art. 17 p. b. Dekretu w przedmiocie tymcz. przepisów prasowych z dnia 7.II 1919 r. (Dz. Praw P. P. N. 14, poz. 186) oraz art. 1 ust. 2 ustawy z dnia 2.VIII.1926 r. o zwalczaniu nieuczciwej konkurencji w brzmieniu jednolitego tekstu, zawartego w załączniku do Rozp. Min. Przem. i Handlu z dnia 9.VII 1930 r. (Dz. U. R. P. N. 56 poz. 467) — wydawania w języku białoruskim czasopisma pn. „Biełaruskaje Wiecza“ — z a b r a n i a m.

U z a s a d n i e n i e:

We wniesionym zgłoszeniu zamierzony tytuł wydawnictwa wileńskiego czasopisma pn. „Biełaruskaje Wiecza“ uchybia przepisom prasowym, gdyż zostało już zgłoszone czasopismo w języku białoruskim o podobnym tytule.

Od decyzji niniejszej służy prawo odwołania do Urzędu Wojewódzkiego Wileńskiego za pośrednictwem Starostwa Grodzkiego Wileńskiego w ciągu dni 14 ad dnia jej doręczenia.

Starosta Grodzki
(T. Wielowieyski)

3. *„Сялянская Газэта“*. 26.I.1937 г. грам. Я. Найдзюк падаў заяву адміністрацыйнай уладзе, што прыступае да выдаваньня ў Вільні беларускай газэты пад назовам „Сялянская Газэта“. У адказ на гэта атрымаў такі дакумант:

Starosta Grodzki
Wileński Wilno, dnia 29 stycznia 1937 r.
B. I.
*L. dz.*

Do Pana Najdziuka Józefa
Wydawcy „Sialanskaja Hazeta“ — wydanie wileńskie
w Wilnie, Wielka 22 m. 29

Dnia 26.I 1937 r. wniósł Pan do Starostwa Grodzkiego Wileńskiego zgłoszenie o zamierzonym wydawaniu w Wilnie tygodnika w języku białoruskim p. t. „Sialanskaja Hazeta“.

Na podstawie art. 71 rozporządzenia Prezydenta R. P. z dn. 22.III.1928 r. o postępowaniu administracyjnym (Dz Ust. R. P. Nr. 36 poz. 341), art. 17 pkt. b. Dekretu w przedmiocie tymczasowych przepisów prasowych z dnia 7.II.1919 r. (Dz. Pr. P.P. Nr. 14 poz. 186) oraz art. 1 ust. 2 ustawy z dnia 2.VIII 1926 r. o zwalczaniu nieuczciwej konkurencji w brzmieniu jednolitego tekstu, zawartego w załączniku do rozporządzenia Min. Przem. i Handlu z dnia 9.VII. 1930 r. (Dz. Ust. R. P. Nr. 56 poz. 467)—wydawania w języku białoruskim czasopisma p. n. „Sialanskaja Hazeta — zabraniam.

U z a s a d n i e n i e.

We wniesionym zgłoszeniu zamierzony tytuł wydawnictwa wileńskiego czasopisma p. n. „Sialanskaja Hazeta“ uchybia przepisom prasowym, gdyż zostało już zgłoszone czasopismo w języku białoruskim o podobnym tytule.

Od decyzji niniejszej służy prawo odwołania do Urzędu Wojewódzkiego Wileńskiego za pośrednictwem Starostwa Grodzkiego Wileńskiego w ciągu dni 14 od dnia jej doręczenia.

Starosta Grodzki
(T. Wielowieyski).

Такім чынам 2.500.000 Беларусаў, з якіх 1.600 000 гэткімі падае нават польская статыстыка з 1931 г., пазбаўлены нават тыднёвай палітычнай газэты ў роднай мове.

Нястала так-жа ў 1937 годзе і беларускіх культурна-прасьветных арганізацыяў: адміністрацыйныя ўлады разьвязалі (закрылі) Т-ва Беларускае Школы і Т-ва Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры.

Пры гэтым трэба адзначыць, што гэтыя т-вы ў 1936 годзе абходзілі юбілеі свайго існаваньня — першае 15 гадоў, а другое 10 угодкі.

Словам, старая і папулярная газэта, старыя і масавыя арганізацыі зачыненыя.

Чаму так сталася — з ведамых прычын апісываць ня будзем. Але нельга не адзначыць намаганьняў беларускіх фашыстаў да гэтай ліквідацыі.

*„Беларускі Фронт“ і „Новы Шлях.“* Выходзячыя ў Вільні газэты „Беларускі Фронт“ і „Новы Шлях“ пісалі фальшывыя даносы на незалежніцкі беларускі рух. Новы Шлях“ нясумленна даносіў, што між Т.Б.Ш. і Б.І.Г.іК. дулі нейкія ветры, а „Беларускі фронт“ толькі тым і займаўся, што дзяліў беларускі рух на чужацкія кірункі ды даказываў аб справядлівасьці сваіх спасьцярогаў.

Гэтак „Беларускі Фронт“ з „Новым Шляхам,“ як наняўшыся, больш паўгоду пісалі ўсялякія ілжывыя даносы, аж пакуль ня сталася ўсё тое, што вышэй апісана.

Гэта ўсё беларускія народныя масы адпаведна ацаняюць і належна да „Бел. Фронту“ і „Новага Шляху,“ а так-жа да іхніх рэдактароў і рэдакцыйных калегіяў укладаюць свае адносіны. У беларускіх народных масах ані „Бел. Фронту,“ ані „Новаму Шляху,“ разам з рэпрэзэнтантамі гэтай супалкі — агулам і кожнаму паасобку—ані пашаны, ані даверу няма.

*Лявон Баравы.*

## Беларуская прэса.

Выдавецкая супалка „Б е л п р э с“ у Вільні выдае беларускія кніжкі і газэты:

### 1) „Самапомач“—„Samapomač“

*беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс.*

Падпіска на „Самапомач“: да канца году — 3 зл., на паўгода 1 зл. 75 гр. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрыс прынамся 5-цёх экзэмпляроў— па 2 зл. за нумар на цэлы год (за 5 штук 10 зл.). Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам“ (Konto: Wilno 40). Усякія пісьмы адрэсаваць у Рэдакцыю: Вільня, Полацкая 9—4.

### 2) „Шлях Моладзі“—„Šlach Moładzi“

*Ілюстраваны месячны часапіс беларускай моладзі.*

Падпіска на 1 месяц 20 гр., на 3 месяцы 50 гр., на паўгода — 1 зл., на год—2 зл. Заграніцу — ўдвая даражэй.

Адрыс Рэдакцыі: Вільня (Wilno), Завальная вуліца № 1—2.

### 3) „Chryścijanskaja Dumka“

*беларускі каталіцкі двутыднёвік.*

„Chr. Dumka“ выходзіць: 5 і 20 кожнага месяца. Падпіска на год 2 зл. 40 гр, на паўгода — 1 зл. 20 гр., на тры месяцы— 60 гр. Цана асобнага нумару — 10 грашоў. Адрас Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня (Wilno), Завальная вул. № 1—2.

Выходзіць так-жа беларускі літаратурна-навуковы часапіс

# Аб Беларусах у Сойме і ў прэсе

Апошнія адносіны польскай улады да Беларусаў адбіліся галосным рэхам у польскім Сойме, у прэсе ўкраінскай, літоўскай, польскай, расейскай і жыдоўскай.

**У Сойме** 15 студня, падчас дыскусіі над буджэтам Міністэрства Нутраных Спраў, выступаў у абароне Беларусаў украінскі пасол З. Пэлэнськый, падчыркваючы вельмі цяжкое палажэньне Беларусаў і ставячы на від беларускія патрэбы.

Пасьля прамовы пасла Пэлэнськага прамаўляў так-жа аб беларускай справе польскі пасол, ведамы генэрал Л. Жэлігоўскі, які заявіў, *што з цяперашняй польскай палітыкай адносна Беларусаў зусім не згаджаецца.*

Падчас дыскусіі над буджэтам Мін. Нутраных Спраў на пленуме Сойму 18 лютага была паднята справа аб Беларусах паўторна.

Пасланка В. Пэлчынская (полька), між іншым, у прамове сказала наступнае:

— Я далёкая ад узьвялічваньня дынамікі беларускага руху, але ня веру, каб беларускі селянін у вялікай сваей масе паддаўся апалячаньню.

— Ня бачу магчымасьці цьвердзіць, што ня можна ў урадах гаварыць пабеларуску, што беларускі язык не павінен дапускацца ў Польскім Радыё, што стварэньне беларускага аб'езднага тэатру было-б ужо выразнай здрадай дзяржавы.

— Ня можна трактаваць беларускага руху, як **твору штучнага і пераходнага.** Гэты рух мае свае натуральныя і рэальныя падставы, а так-жа магчымасьці разьвіцьця. Калі нават зьліквідуюць тую ці іншую беларускую арганізацыю, дык гэта зусім ня значыць, што ў той мясцовасьці зьліквідуецца народна-беларускі рух.

— У беларускай вёсцы нарастае цяпер новая праблема, праблема беларускай інтэлігенцыі, якая ня мае натуральнага адплыву і часта жыве ў вёсцы ў бядноцтве.—

Далей пасланка Пэлчынская з трыбуны зварочваецца да прысутнага ў залі Сойму Прэм'ера Ўраду гэткімі славамі:

— Пане Прэм'ер! Веру ў Вашу нязужытую энэргію, дзеля таго чакаю, што Вы спыніце *шуканьне дзяржаўнай нелёяльнасьці ў грамадзян, каторыя выразьней за іншых прызнаюцца да беларускай нацыянальнасьці,* што Вы спыніце кары, накладаныя на сялян за якоесь вядро нядобра ўвязанае, за сьметнік, за сабаку, калі пад гэтай пакрыўкай сапраўды праяўляецца „narodowościowa" палітыка (вопляскі).

— *Закрыцьцё „Беларускай Крыніцы" ўважаю за памылку, але лепш зачыніць газэту, чымся канфіскаваць па хатах газэту выдаваную легальна.*

— Знаю вёскі, дзе селянін, ня могучы даставаць беларускай газэты, пераходзіць на газэту расейскую.

— *У граніцах нашай Дзяржавы беларуская праблема існуе.*

— Беларуская сьведамасьць, якая радзілася-б у барацьбе з Польшчай, гэта наш пройгрыш. Мусімо зрабіць усё, каб гэная сьведамасьць ня вырастала з камплексаў крыўды. Дасюлешнія мэтады благія. Гэтак далей быць ня можа.

Гэтулькі, менш-больш, пасланка Пэлчынская ведае аб палажэньні Беларусаў, што, як вычуваецца, з поўнай шчырасьцяй у сваей прамове выявіла, зварочваючы ўвагу людзей добрай волі на лёс сярмяжных Беларусаў з гледзішча дабра польскай Дзяржавы.

На гэтым-жа пленарным паседжаньні Сойму пасол генэрал Жэлігоўскі паўторна выступаў у прамове з беларускай справай, прагаворваючы ў абароне Беларусаў.

Паданы голас у абароне Беларусаў з соймавай трыбуны адбіўся рэхам і ў прэсе.

**У прэсе** ўкраінскай аб Беларусах агулам і аб беларускіх справах апошніх часоў у асобнасьці зьмешчаны артыкулы ў газэтах: „Діло", „Новый Час", „Неділя", „Батьківщына", „Украінскі Вісті" і інш.

„Діло" шырока апісвала сучаснае палажэньне Беларусаў, падаючы цалком прамову пасла Пэлэнськага і заяву генэрала Жэлігоўскага.

„Украінскі Вісті", апісваючы стараньні Беларусаў выдаваць сваю газэту і ў гэтых стараньнях няўдачу, адзначае ў нумары з 6.II. 1937 г. — „такім чынам Беларусы ў Віленшчыне другі месяц ня маюць сваей газэты".

Літоўскія газэты ўсе праявы ў жыцьці Беларусаў заўсёды падаюць з поўнай дасьледнасьцяй; не прамаўчалі яны і здарэньняў у беларускім жыцьці апошніх часоў, гэта ў тыя цяжкія часы, калі Беларусы ня маюць сваей палітычнай прэсы і ня могуць аб сваім горы інфармаваць сваё грамадзянства і суседзяў.

Падавалі так-жа весткі аб палажэньні Беларусаў расейскія і жыдоўскія газэты.

Віленская польская прэса, за выняткам „Kuriera Powszechnego" аб гэтых падзеях ані заікнецца, маўчала і маўчыць, як вады ў рот набраўшы.

Аб Беларусах спатыкаюцца ад часу да часу газэтныя артыкулы і ў варшаўскай польскай, дэмократычнай прэсе, як „Robotnik" і інш.

„Dziennik Popularny" (Nr. 13, 1937) у адным з апошніх артыкулаў аб Беларусах піша гэтак:

„Od czasu likwidacji białoruskiej „Hromady" jedyną masową polityczną organizacją białoruską była „chrześcijanska demokracja białoruska". Poza tą partią istniały właściwie tylko luźne grupy, skupione dokoła pewnych pism lub osób.

Istniała i istnieje jeszcze t. zw. białoruska sanacja. Stworzyła ją ta grupa przywódców b. Hromady, która pozostała w kraju i na wolności i która zaczęła propagować całkowity oportunizm i ugodowość wobec sanacji polskiej. Skompromitowała się ona doszczętnie w oczach mas białoruskich, które zarzucają jej odstępstwo od sprawy narodowej. Skompromitowana i pozbawiona wpływów „sanacja białoruska" straciła całą swą wartość dla sanacji polskiej.

Na placu pozostała więc właściwie białoruska chrześcijańska demokracja. Pod wpływem zmian w rzeczywistości społecznej i gospodarczej partia ta zaczęła odbywać pewną ewolucję zwłaszcza jeżeli chodzi o program reform socjalnych. Wyrazem tych zmian było przekształcenie chadecji w „Białoruskie Zjednoczenie Ludowe" („Biełar. Narodn. Abjednańnie" — B. N A.). B. N. A. stoi na gruncie bezkompromisowej walki o prawa narodu białoruskiego, żąda radykalnej reformy rolnej, uznaje konieczność walki z faszyzmem, zagrażającym narodowym i społecznym dążeniom ludu białoruskiego. B. N. A. stoi na gruncie zupełnej wolności wyznań. Z pewną dokładnością możemy powiedzieć, że nowy program B. N. A. zbliżony jest do programu „Stronnictwa Ludowego", w niektórych punktach jest on nawet bardziej radykalny.

Ewolucja B. N. A. zaniepokoiła zarówno polską sanację, jak i niektóre reakcyjne jednostki białoruskie, zwłaszcza z pośród kleru. Na czele nowej grupy zwalczając B.N.A. stanął jeden z dawnych przewódców chadecji ks. Godlewski, który wystąpił z niej w r. 1928 pod wpływem stanowiska władz kościelnych, Szkielonek i Dubiejkowski, dwaj ostatni nigdy nie należeli do białoruskiej chadecji. Nowa grupa zaczęła wydawać pismo „Front Białoruski" („Беларускі Фронт"), gwałtownie zwalczający B. N. A. i jego organ „Białoruską Krynicę".

Jak się zdaje nowa grupa chce odegrać w nowych warunkach rolę „białoruskiej sanacji". Omawiając ruch białoruski doszukuje się ona w nim jedynie wpływów obcych orientacyj a mianowicie „sowietofilskiej" i „litwofilskiej." Polakom czyni wyrzuty, że ich winą jest brak w społeczeństwie białoruskim „zdrowej orientacji polonofilskiej."

Oczywiście los tej grupy w masach białoruskich jest przesądzony"...

Гэтак разглядае польская прэса абнову Б.Х.Д. — ператварэньне яе на Б.Н.А. і справу паўстаньня „Беларускага Фронту." Праўду кажучы, ня мыляецца.

*Аглядчык.*

# Уклад грамадзкіх сілаў у Польшчы

Ад пачатку 1937 году пачалі ўкладывацца польскія грамадзкія сілы, шукаючы дарог плыцьця ў будучыню.

Праявамі гэткага ўкладываньня грамадзкіх сілаў зьяўляюцца вялікія кангрэсы польскага сялянства і польскага работніцтва, а так-жа выступленьне з ідэёва-палітычнай дэкляарацыяй палкоўніка А. Коца.

*Кангрэс „Стронніцтва Людовага."* Сёлета ў студні — 15. 16 і 17 — адбыўся ў Варшаве вялікі сялянскі кангрэс прадстаўнікоў польскага сялянства амаль з усіх куткоў этнографічнай Польшчы, а пераважна з г. зв. „аўстрыяцкага забору."

Апошнімі гадамі польская сялянская партыя „Стронніцтво Людовэ" вельмі шырока абхапіла сваімі ўплывамі польскіх сялян і сталася арганізацыяй вялікага палітычнага значэньня ў нутраным жыцьці Польшчы. Дзеля гэтага кангрэс „Стр. Люд." зьвярнуў вялікую ўвагу на арганізаванае польскае сялянства ня толькі ў Польшчы, але так-жа і заграніцай.

На кангрэс прыбыло 383 дэлегатаў — прадстаўнікоў з паветаў мясцовых арганізацыяў „Стр. Людовага," цэнтральныя ўлады партыі і госьці.

Польская Партыя Соцыялістычная (ППС), якая аб'еднывае польскае работніцтва, прыслала кангрэсу „Стр. Люд." братні прывет і поўнае прызнаньне, выражаючы сваю гатоўнасьць супрацоўніцтва з „С. Л." дзеля асягненьня супольных ідэалаў, агульнага дабра і справы дзяржавы.

Кангрэс гэты, які шырока зьвярнуў на сябе ўвагу, прыняў цэлы рад рэзалюцыяў, у каторых, між іншым, сказана выразна, што польскаму сялянству не пагарозе ані з камунізмам, ані з фашызмам а дзеля гэтага „Стронніцтво Людовэ" стаіць на плятформе свабоднага дэмакратызму і імкнецца да правядзеньня дэмакратычных пастулятаў у жыцьцё.

Агулам кажучы пастановы кангрэсу „Стр. Люд." характарам ідэёва-палітычным, за выняткам адносінаў да недзяржаўных народаў, зусім падобныя да пастаноў цэнтральных уладаў Беларускага Народнага Аб'еднаньня (Б.Н.А.), каторыя абвешчаны камунікатам № 5 з 16.VI.1936 г., як пастуляты беларускай палітыкі ў сучаснасьці.

Пры гэтым трэба адзначыць так-жа, што кангрэс „Стр. Люд." да г. зв. тэрытарыяльных народных меншасьцяў, асабліва да Беларусаў, не заняў ніякага становішча, быццам пацьвярджаючы інсынуацыі польскай „кансэрвы" і „эндэцка-санацыйнай" супалкі, што ў граніцах польскай дзяржавы беларусаў няма, дык няма і беларускай праблемы. Гэткае становішча фальшывае, аб чым пацьвярджаюць патрыятычныя выступленьні ў Сойме на сёлетняй буджэтнай сэсіі пасла ген. Л. Жэлігоўскага і вялікага палітычнага значэньня прамова пасланкі В. Пэлчынскай.

Словам, кангрэс „Стронніцтва Людовага„не праявіў п о ў н а г а зразуменьня культуры сужыцьця ані з Беларусамі, ані з Украінцамі. Можна аднак спадзявацца, што той шлях, па якім вядзе гэная арганізацыя польскае сялянства ў будучыню — шлях вольнага і свабоднага дэмакратызму, давядзе „Стр. Люд." да культуры сужыцьця з Беларусамі, Украінцамі і Літоўцамі, як грамадзянамі, якія маюць свае асобныя народныя асьпірацыі і ў рамах народных і культурных патрэбаў хочаць укладаць сваё грамадзка-палітычнае жыцьцё.

Пасьля кангрэсу польскага сялянства пад сьцягам „Стронніцтва Людовага," заразжа адбыўся кангрэс польскага работніцтва, пад сьцягамі арганізацыяў Польскай Партыі Соцыялістычнай (П.П.С).

*Кангрэс ППС* Сёлета 31 студня, 1 і 2 лютага адбыўся ў Радоме чарговы кангрэс Польскай Партыі Соцыялістычнай (П.П.С). На Кангрэсе было некалькі сотняў дэлегатаў

прадстаўнікоў арганізацыяў П.П.С. На гэтым кангрэсе быў, як госьць, прадстаўнік II. Соцыялістычнага Інтэрнацыяналу Ян Люнген — пасол францускага парляманту.

Кангрэсу П.П.С. прыслала пісьменны прывет „Стронніцтво Людовэ“ менш-больш такога зьместу:

— Нароўні з Вамі прызнаём многія супольныя інтарэсы, за якія мусім змагацца супольна; у барацьбе з усялякай дыктатурай, у змаганьні за пашырэньне дэмакратызму сяляне, зарганізаваныя ў „Стр. Люд.“ пойдуць супольна з працоўнай грамадой, аб'еднанай пад сьцягамі Польскай Партыі Соцыялістычнай. —

У канцы нарадаў кангрэс П.П.С. прыняў цэлы рад пастановаў, выказваючы сваё дэмакратычнае становішча, скіраванае проціў камунізму і проціў фашызму.

Камунізм, як сьцьвярджае гэты кангрэс, ня мае нічога супольнага з соцыялізмам і супярэчны з ідэямі дэмакратызму, што сьцьвярджаюць факты экспэрымэнтальнай палітыкі ў С.С.С.Р., праводжанай там камуністымі ўсялякіх „уклонаў.“

Фашызм, таксама, як і камунізм супярэчны з ідэямі дэмакратызму, супроць якога трэба супроцьставіць дзьве рэальныя сілы: работніцкі і сялянскі рухі, аб'еднаныя ў адну супольнасьць.

Агулам — рэзалюцыі выразна паказалі, што П.П.С. склоннае да шырокага дэмакратычнага супрацоўніцтва на падставах прызнаваньня пастулятаў другіх палітычных групаў, якія імкнуцца да сужыцьця, як вольныя з вольнымі і роўныя з роўнымі грамадзяне дзяржавы.

Адносна народных меншасьцяў, асабліва адносна Беларусаў, кангрэс П.П.С. выразнага становішча не заняў — гэтую важную праблему ў Польшчы абняў агульнай фразэолёгіяй.

Дзеля гэтага, можам цьвердзіць, што ані ППС., ані „Строн. Людовэ“ не зьяўляюцца такімі палітычнымі арганізацыямі, якія абыймалі-б праграмова вырашэньне ўсіх справаў у Польскай дзяржаве. Бо належнае вырашэньне праблемы народных меншасьцяў у Польшчы, асабліва меншасьцяў г. зв. тэрыторыяльных, як Украінцы, Беларусы і Літоўцы — гэта праблема вялікай сапраўды палітычнай вагі, якой вырашыць ані „агульна-немай“ фразэолёгіяй, ані націскам большай сілы нельга. Тут патрэбная культура сужыцьця.

*Палітычная дэклярацыя палк, А. Коца.* 21 лютага сёл. палкоўнік А. Коц абвесьціў ідэёва-палітычную дэклярацыю, якая мае быць праграмай новай палітычнай арганізацыі ў Польшчы.

Гэная дэклярацыя — тэзы галоўных палітычных лініяў новай палітычнай арганізацыі палк. Коц выводзіць з прамовы маршала Эдварда Рыдза-Сьмігла, сказанай 24.V. 1936 году.

Тэзы ідэёва-палітычнай дэклярацыі палк. Коц. уняў у 9-цёх параграфах, выказваючы высока-патрыятычны характар, абымаючы жыцьцё дзяржаўнай арганізацыяй. Дэклярацыя сьцьвярджае, што — *дзяржава зьяўляецца адзінай формай правільнага і здаровага быту народу.*

(Сьвятая праўда! — народ без дзяржавы, што расьціна ў вазоне — рэд).

Нутраное жыцьцё аўтар дэклярацыі апірае на абавязуючай канстытуцыі з 23.IV. 1935 г., ставячы на найвышэйшы педэстал армію, як дзейнік коордынацыйны сілы народу, які дае магчымасьць выкананьня вялізарнага заданьня, выплываючага з канешнасьці.

Адносна тэрыторыяльных нацыянальных меншасьцяў палк. Коц у сваей дэклярацыі дае такія тэзы:

— з боку польскага ахвота братняга грамадзкага сужыцьця на тых землях, за якія вякамі пралівалі кроў, закладаючы вогнішчы цывілізацыі і бароначы іх ад захланьня барбарызму; прызнаваньне народнай асаблівасьці, пакуль гэта не супярэчыць інтарэсам дзяржавы і не разьдзеляе мурам ненавісьці.

Гэтак вырашае палк. Коц праблему тэрыторыяльных народных меншасьцяў ў Польшчы. Ад крытыкі гэнай дэклярацыі, з ведамых прычын, устрымліваемся.

Далей аналізуючы гэтую дэклярацыю трэба адзначыць, што яна выразна адгароджвае жыцьцё ад камунізму, нічога не ўспамінаючы аб фашызме. У дэклярацыі няма так-жа ані аднаго слоўца — дэмакрацыя або дэмакратызм.

Справу рэлігійную палк. Коц у сваей дэклярацыі ставіць гэтак:

— Каталіцкі Касьцёл мусіць мець належную асаблівую апеку, а ўсе іншыя веравызнаньні апіраюць сваё існаваньне і дзеяньне на аснаўных законах канстытуцыі, якія выплываюць з польскай трыдыцыі рэлігійнай толеранцыі. —

Гэтак менш-больш прадстаўляецца ідэёва-палітычная дэклярацыя палк. Коца, якая мае стацца праграмай новай палітычнай арганізацыі, ня толькі таго грамадзянства, каторае аб'еднывалася ў Беспартыйным Блёку Супрацоўніцтва з Урадам (Б. Б.), але якая ўжо гадуе тэндэнцыю абняць усё грамадзка-палітычнае і народнае жыцьцё ў дзяржаве.

Пасьля апублікаваньня дэклярацыі палк. Коца да яе пачалі прылучацца не надумываючыся ўсе лёкальныя арганізацыі, якія былі або складовымі часткамі Б. Б., або абнятыя сфэрай уплываў Беспартыйнага Блёку Супрацоўніцтва з Урадам. Такім чынам амаль усё даўнейшае Б. Б., за выняткам вялікага промыслу, органам якога зьяўляецца **„Kurjer Polski“**, каторы выказаў да гэтай дэклярацыі свае засьцярогі—выявіла гатоўнасьць уступленьня ў новую партыю, якой будзе праграмай дэклярацыя палк. Коца.

Уся лявіца, а так-жа і эндэцыя адносна дэклярацыі палк. Коца выказаліся нэгатыўна.

Словам, у Польшчы, як відаць з акцэсаў і адносінаў да дэклярацыі палк. Коца, існуюць тры ідэёва-палітычныя кірункі — 1) П.П.С. і „Стронніцтво Людовэ“, 2) за дэклярацыяй палк. Коца, 3) „нацыяналістычнейша здаровага разсунку“ эндэцыя.

*Сьвірчук.*

# Другі працэс троцкістаў у СССР.

Яшчэ нядаўна расстралялі 16 троцкістаў, абвінавачаных у прыналежнасьці да „Троцкісцка-Зіноўеўскага цэнтру“, а ўжо адбыўся ў студні м-цы сёл. другі вялікі працэс троцкістаў у Маскве. У другім працэсе судзілі: Радка (Собэльсон), Сокольнікава (Брылянт), Пятакова, Серабракова, Муралова, Ліфшыца і іншых, усіх разам 17 чалавек; абвінавачвалі іх за сарганізаваньне побач з даўнейшым „цэнтрам“ г. зв. „Роўналеглага Цэнтру“, каб праводзіць тэрор, сабатаж і агулам разбураючую работу ў СССР.

Акт абвінавачаньня цьвердзіў, што „Роўналеглы Цэнтр“ арганізаваў тэрорыстычныя групы, якія праводзілі сабатаж у ваенным промысьле і рабілі ўсялякія шкоды на чыгунках і ў фабрыках. Гэта праводзілася ўсё пад кіраўніцтвам Троцкага, а так-жа „Роўналеглы Цэнтр“ праводзіў шпіёнаж у Саветах на карысьць другіх дзяржаў. Праводзіў гэткую работу „Роўналеглы Цэнтр“ быццам дзеля таго, каб аслабіць ваенныя сілы СССР і прыгатаваць напад на Саветы дзеля падзелу СССР.

Да гэтага працэсу гатовіліся савецкія судова-сьледчыя ўлады ад працэсу „Троцкісцка-Зіноўеўскага Цэнтру“, які закончыўся расстрэлам 16 чалавек. Газэты падавалі, што быццам тады выкрылі і „Роўналеглы Цэнтр“, але тагачасны начальнік ГПУ Ягода ня ўмеў сабраць доказаў дзеля абвінавачаньня і з гэтай прычыны падаўся ў адстаўку. Начальнікам ГПУ быў назначаны Ежов.

Гэтаму начальніку ГПУ ўдалося „выкрыць“ змову — „Роўн. Цэнтр“ сярод найважнейшых бальшавіцкіх дзеячоў.

Вельмі цікава і дзіўна, што на судзе абвінавачаныя прызналіся да ўсяго праступнага, за што іх пракурор вінаваціў.

Радэк прызнаўся да ўсяго і яшчэ „выдаў“ іншых, каторых у гэтым працэсе на лаве абвінавачаных ня было, а іменна — выявіў Бухарына.

Прысуд быў такі: 13 асуджана на кару сьмерці, у гэтым ліку Пятакова і Серабракова; а Радка, Сакольнікава і Арнольда на 10 гадоў турмы, Строілава на 8 г. Зварочвае ўвагу факт, што ані Радэк, ані Сакольнікаў, проціў якіх найболей было закідаў, не асуджаны на сьмерць. Просьба аб памілаваньні была адкінута і ўсіх 13 чалавек расстралялі.

# Агляд міжнароднага палажэньня

— Крывавая вайна ў Гішпаніі ня спыняецца. І ня дзіва. У гэтай нутраной гішпанскай вайне многія дзяржавы, суседнія і пастароньнія, глыбока зацікаўленыя і дзеля гэтага ў гішпанскай барацьбе многа прыймае ўчасьце вонкавая сіла — зацікаўленыя разультатамі хатняй вайны пастароньнія дзяржавы.

Устаноўлена, што зацікаўленыя дзяржавы амаль адкрыта памагаюць гішпанскім ваюючым старонам — паўстанцам Нямеччына і Італія, а рэспубліканцам СССР і крыху Францыя.

Гішпанская нутраная вайна мае вялікае значэньне ў міжнароднай палітыцы, усьцяж пагражаючы выбухам вайны шырэйшых разьмераў.

Англія, стараючыся ўтрымацца на цяперашнім палажэньні ў сьвеце, абярагаючыся вайны выключна дзеля абароны сваіх інтарэсаў, адносна хатняй вайны ў Гішпаніі, якая яшчэ не заграждае інтарэсам англіцкае справы, ацягваецца і дзеля спыненьня гэтай людзкой бойкі рашуча не выступае. Яна ўсё арганізуе камітэты няінтэрвэнцыі з прадстаўнікоў дзяржаў незацікаўленых і зацікаўленых гэтай вайной.

Словам, у Гішпаніі ваююць пастароньнія дзяржавы, якім у сапраўднасьці нутраныя гішпанскія справы найменш абходзяць і ня маюць рашаючага значэньня.

— Польска-літоўскія суадносіны не папраўляюцца. У Вільні і Віленшчыне нядаўна адбываліся падзеі, якія, на наш пагляд, маюць ня толькі мясцовае і вузкое значэньне. Маем на думцы рэвізіі ў літоўскіх арганізацыях, арыштаваньне б. старшыні Літ. Нац. Камітэту К. Сташыса, якога, праўда, зараз выпусьцілі, закрыцьцё Літ. гімназіі ў Сьвянцянах і масавае закрываньне літ. арганізацыяў на правінцыі, а так-жа адказ мін. Бэка на інтэрпэляцыю пасла сойму Вельгорскага. У сваім адказе мін. Бэк кажа, што ўсе стараньні польскай дыплямацыі навязаць зносіны з Літвою былі дарэмны і траціцца надзея на паразуменьне з прычыны няўступчывасьці Літвы. Дзеля гэтага польскі ўрад бярэ назад той давер, які меў да літоўскай мірнай палітыкі і будзе паступаць адносна Літвы так, як Літва адносна Польшчы. Пры ўсім гэтым Польшч гатова абапёрці свае адносіны да Літвы на асновах нармальнага суседзкага сужыцьця...

Гэтыя словы мін. Бэка выглядаюць на прапазыцыю беспасрэдных перагавораў з Літвою.

— Нямеччына бязупынна ўваружаецца. Ня гледзячы на тое, што народ мусіць пасьціць і недаядаць, збраеньні паступаюць упе-рад. З праводжаньня моцных украпленьняў уздоўж францускай граніцы, а так-жа на лініі Пазнань-Бэрлін, відаць, што нямецкі ўрад гатовіцца да вайны з усходам і захадам.

— Непакоіцца ваеннымі прыгатаўленьнямі Нямеччыны СССР, непакояцца і прыбалтыцкія дзяржавы. Грозная пастава Нямеччыны адносна СССР шукаючы дарогі паходу на ўсход, стала грозным і для прыбалтыцкіх дзяржаў, якія змушаны шукаць абароны і заключыўшы саюз між сабою, навязалі добрасуседзкія адносіны з СССР. Гэтая добрасуседзкасьць Літвы, Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі з СССРператвараецца ў абаронны саюз ад супольнага ворага звонку.

Закрапленьнем гэткага саюзу прыбалтыцкіх дзяржаў былі нядаўнія адведзіны савецкім маршалам Егоравым Літвы, Латвіі і Эстоніі, а так-жа візыта фінляндзкага міністра загранічных спраў у СССР.

Словам, прыбалтыка становіцца ў абароне ад захопніцтва разам з СССР.

— На Далёкім Усходзе — у Кітаю неспакойна. Японія сваей экспансіі ўглыб Кітаю ня спыняе. Кітайцы ў абароне ад японскага захопніцтва часта шукаюць апірышча ў бальшавікоў. Такім чынам там ўсьцяж пагражае вайна між Японіяй і СССР.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. № 1—2.